24 (584) 16 чэрвеня 2011 года.
Кошт свабодны.
Выдаецца са снежня 1994 года

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.







Турыстычны злёт на беразе Шошы. Конкурс касцоў. *Працяг тэмы на стар. 6*









## МНС інфармуе

(па стану на 14.06.2011 г)

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 711.
Гібель людзей – 128, з іх дзіцяці – 3.
Урон – 2 781 749 тыс. руб.

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 35.
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма.
Урон – 219 295 470 руб.

Верхнядзвінскі раён

# Кавалерысты на мяжы

■ Чэслаў Якубовіч

**Да нядаўняга часу конныя патрулі выкарыстоўваліся паліцыяй і пагранічнікамі ў шэрагу еўрапейскіх краін, а таксама ў Расіі.**

Па гэтым шляху сёлета вырашыла пайсці і Беларусь: увяла на дзвюх памежных заставах на прыбалтыйскім напрамку дзяржмяжы конныя патрулі. У эксперыменце працягласцю 2 гады удзельнічаюць пакуль 8 коней: чатыры на заставе "Падліпкі" паблізу Гродна і столькі ж коней на заставе на Віцебшчыне. Вось ужо другі месяц на аддаленай заставе "Савейкі", што ў Верхнядзвінскім раёне з забалочаным і маланаселеным ландшафтам, у дазор выходзяць разам з воінамі прыгожыя коні Джолі, Венера, Стрэлка і Ургу. Яны прадстаўляюць тракененскую пароду і помесь з беларускай упражной, адрозніваюцца спакойным характарам і паслухмянасцю. За імі замацавалі 9 салдат-пагранічнікаў і рыхтавалі да незвычайнай службы амаль 3 месяцы. Гэту заставу выбралі для правядзення эксперыменту невыпадкова, бо ў гарпасёлку Асвея мясцовая гаспадарка гадуе коней і тут працуе дзіцячая конна-спартыўная школа. Ёсць і спецыялісты-ветэрынары, а сельгаспрадпрыемства будзе забяспечваць заставу зялёным кормам для жывёлы. Ды і адзін з кавалерыстаў-пагранічнікаў мае ветэрынарную адукацыю, другі да прызыву на службу займаўся конным спортам. Цікава па-новаму служыць і іншым салдатам у зялёных фуражках, бо прыходзіцца ездзіць і ахоўваць штодзень дзясяткі км мяжы з Латвіяй. Для новых чатырохногіх членаў заставы раней абсталявалі канюшню, закупілі ўсё неабходнае, ды і да вайны тут былі дзве савецкія конныя пагранзаставы.

Пастаўскі раён

# За аграгарадком развалюхі і халупы

■ Кастусь Александровіч.

**Велізарныя сродкі ўклала дзяржава ў адраджэнне беларускай вёскі, аднак шэраг істотных праблем глыбінкі засталіся так і не вырашанымі. Вось і ў Пастаўскім раёне зараз дзейнічаюць 10 аграгарадкоў, але з'явіліся яшчэ 179 закінутых, напаўразбураных хат, якія сталі нікому не патрэбныя.**

Перад гэтым некалькі соцень такіх дамоў былі поўнасцю знесены разам з комінамі і пераўтвораны ў зямельныя ўчасткі. Зусім побач з райцэнтрам размешчаны новы аграгарадок Юнькі, які адкрылі перад мінулагоднімі Калядамі. Па суседству з ім у вёсках Грыдзькі, Пятрагі, Соўкі разбураныя хаты знеслі, але засталося на іх месцы шмат смецця, фундаменты і асірацелыя печы, быццам на хроніцы ваенных часоў накшталт Хатыні. Раней добра дагледжаныя працалюбівымі вяскоўцамі надзелы зямлі параслі вялізным бур'яном. Каля дарог валяецца шмат ссечаных, але не вывезеных кустоў па праграме "Чыстае поле". Выгляд многіх маланаселеных вёсак, дзе жыхароў засталася жменька, проста жахлівы, усё патыхае запусценнем і прывідам немінучай смерці і знікнення назаўсёды з жыцця. Праведзеная праверка выявіла аналагічныя хібы і на тэрыторыі суседніх Варапаеўскага пассавета, Навасёлкаўскага, Дунілавіцкага, Казлоўшчынскага і іншых сельсаветаў. Зразумела, праз нейкі час там навядуць парадак, але глыбінка старэе і імкліва губляе працаўнікоў на зямлі, і больш паловы насельніцтва раёна ў сельскай мясцовасці нікога не трымае на панадворках, нават курэй.

Браслаўскі раён

# Для слова няма граніц

■ Чэслаў Якубовіч

**Дзякуючы свайму прыгранічнаму становішчу і суседству адразу з дзвюма дзяржавамі Еўрасаюза Браслаўскі раён не губляе разнапланавых сувязей з літоўцамі і латышамі.**

Вось і на чарговае міжнароднае свята традыцыйнай культуры "Браслаўскія зарніцы" ў пачатку чэрвеня згадзіліся прыехаць літоўскія і латышскія дэлегацыі і артысты, а таксама з Польшчы і Эстоніі. Рэгулярна бакі абменьваюцца вопытам працы, супрацоўнічаюць па праграме еўрарэгіёна. А ў цэнтральнай раённай бібліятэцы днямі правялі інтэрнацыянальную літаратурную вечарыну "Межаў няма для крылатага слова". На мерапрыемства былі запрошаны супрацоўнікі ўсіх бібліятэк азёрнага краю, аматары высокага і ўзнёслага. Ганаровымі гасцямі імпрэзы сталі беларускі пісьменнік з латвійскага горада Даўгаўпілс Станіслаў Валодзька і сябар Саюза пісьменнікаў Расіі Яўген Голубеў. Іх выступленні перамяжаліся канцэртнымі нумарамі мясцовых самадзейных артыстаў. Свае лепшыя вершы прачытала і мясцовая паэтка Святлана Цыунель. На гэтай творчай сустрэчы праспявалі шэраг песень пад гітару на словы ганаровых гасцей. Арганізатарам незабыўнай паэтычнай гасцінай у бібліятэцы выступіла дырэктар мясцовай бібліятэчнай сістэмы Вольга Лясneўская. Бібліятэчны работнік таксама піша добрыя вершы і невыпадкова летась з'яўлялася удзельнікам Дзён паэзіі Латвійскай Рэспублікі. Поспех творчай вечарыны быў такі, што ў падобным фармаце новыя сустрэчы тут будуць арганізаваны і надалей.




## Лічба нумара

**800 млн. $** - такім летам будзе, як паведамілі ва ўрадзе Беларусі, першы транш крэдыту дапамогі нашай краіне з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Калі пачнецца восень, беларусам паабяцалі выдзеліць наступны транш у памеры крыху больш за 400 млн. долараў. Але не ўсе суайчыннікі ведаюць, што пад адпаведную праграму стабілізацыі айчыннай эканомікі кіраўнікі Расіі, Казахстана, Кыргызстана і Таджыкістана выставілі нам спачатку пэўныя ўмовы і істотна абрэзалі ранейшыя апетыты беларускага кіраўніцтва. Афіцыйны Мінск вымушаны быў паабяцаць выходзіць на адзіны курс сваёй нацыянальнай валюты, правесці даволі балючую і рэкордную ў свеце дэвальвацыю рубля РБ на 56 %.

Як і належала чакаць, такія драконаўскія, але вымушаныя меры балюча ўдарылі па ўсіх слаях насельніцтва, справакавалі шэраг негатыўных з'яў у бок зніжэння ўзроўню жыцця. А галоўнае, што ўслед за тэрактам у сталічным метро цяпер канчаткова рухнуў міф аб стабільнасці і дынамічным развіцці краіны. І не грамадзяне стварылі сабе праблемы з таварамі, шалёны спажывецкі попыт, а нястрымны рост цэн і інфляцыйныя страхі. Нават калі за 1 долар сталі даваць больш за 5000 рублёў, валюта ў абменніках не з'явілася. Пад ціскам відавочных фактаў ужо і А. Лукашэнка пачаў гаварыць пра крызіс і запэўніваць, што Беларусь зможа пераадолець гэтыя з'явы, неяк выкруціцца.

Аднак па-ранейшаму шмат чаго невядома нават спецыялістам і наконт так званай "падушкі бяспекі" і тэрмінах канчатковай ўніфікацыі курсу беларускага рубля. Наш "зайчык" на міжбанкаўскім рынку абясцэніўся яшчэ болей за 100 %. А вось адмова суседняй Расіі падтрымаць беларусаў і выдзеліць крэдыт (хоць і ў фондзе ЕўрАзЭС пераважае яе валюта) выклікала глухое раздражненне кіраўніцтва РБ. Нават пры курсе 5000 руб/USD насельніцтва не кінулася несці свае зберажэнні ў абменныя пункты, паколькі чорны рынак не рэагаваў адпаведна на адкладзены вялікі попыт.

Калі раптам полкі апусцелі нават у ЦУМе і ГУМе, народ ужо не верыў і кіраўніку беларускага ўрада, што за 18 дзён мая склалася станоўчае сальда наяўнай валюты "купі-прадай" у памеры 34 млн. долараў. Проста неверагодна, што дзесьці ў абменніках свабодна б ляжалі долары і еўра, а іх ніхто не хацеў набываць. Хутчэй за ўсё Беларусь сутыкнулася ўшчыльную з самым сур'ёзным сацыяльна-эканамічным крызісам з моманту атрымання сваёй незалежнасці. Відавочна цяпер нават старэнькім бабулькам, што ўзровень жыцця рэзка пагоршыўся і новы доларавы эквівалент рубля таму яскравае пацверджанне. Пра ранейшыя перадвыбарныя абяцанні 1000-доларавай зарплаты зараз ніхто ўзгадваць не будзе, бо трэба забыцца і пра быццам бы ўзяты рубеж заробкаў 500 $.

Ужо і большасці насельніцтва стала зразумела, што эканоміка трашчыць па швах і ў абарачэнне выкінута празмерная маса грошай. Сапраўды, Цэнтрабанк РБ дапусціў празмерную эмісію грошай, каб пакрыць дзяржаўныя апетыты перад выбарамі. Самае сумнае, што цяпер многія беларусы будуць працаваць цэлы дзень за адну бляшанку якаснай кавы альбо адмовяцца яе набываць у крамах, дзе паліцы прыкметна апусцелі, а цэны ўзляцелі да нябёсаў. А вось тыя беларусы, што трымалі свае рублёвыя ўклады ў банках, пасля дэвальвацыі нацвалюты страцілі ў адзін момант 1,3 млрд. долараў.

Цікава і іншае. Калі Грэцыя, якая апынулася ў падобнай сітуацыі з намі, атрымала на падтрымку сваёй эканомікі з Еўрасаюза цэлых 100 млрд. еўра, то мы вымушаны будзем задавальняцца нейкімі вартымі жалю 800 мільёнамі. Грэкаў жыве прыкладна столькі, колькі і беларусаў, і яны з крызісу выйдуць хутка. Наш усходні вектар палітыкі супрацоўніцтва не спрацаваў. Гэта сітуацыя выгадная толькі Крамлю, ён за бясцэнак можа скупіць фамільнае беларускае "срэбра".

Адзінае, што радуе: у простых людзей нарэшце могуць адкрыцца вочы і яны задумаюцца, ці так яны жывуць, пазбавіцца пэўных ілюзій наконт таго, хто ёсць хто ў нас. Будзе дрэнна, калі і надалей захаваецца гіперінфляцыя ў Беларусі. Відавочна, што такі малы стабілізацыйны крэдыт праблему вырашыць толькі на кароткі тэрмін, а што будзе далей? Наша эканоміка пад кантролем дзяржавы не развалiцца, але многім ужо стала і будзе далей яшчэ цяжэй жыць па наяўных сродках, як ні складана да гэтага прывыкнуць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 16.06.11 | | | | пятн. 17.06.11 | | | | сб. 18.06.11 | | | | нядз. 19.06.11 | | | | пн.20.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +12 | +14 | +19 | +17 | +11 | +18 | +23 | +21 | +16 | +16 | +21 | +18 | +16 | +18 | +16 | +16 | +13 | +12 | +14 |
| Ціск, мм | 745 | 746 | 746 | 746 | 747 | 747 | 746 | 744 | 743 | 744 | 744 | 742 | 740 | 737 | 736 | 736 | 735 | 734 | 735 |
| Вільготнасць, % | 64 | 60 | 50 | 64 | 92 | 65 | 42 | 50 | 93 | 75 | 46 | 79 | 70 | 71 | 87 | 55 | 83 | 93 | 83 |
| Вецер м/сек | З 4 | З 5 | З 5 | С-З 3 | С-З 2 | Ю-В 2 | Ю 3 | Ю-В 5 | З 4 | С-З 4 | З 4 | Ю 1 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 6 | Ю-З 7 | З 10 |

## Дзень за днём

**У Беларусі змянілі курс не толькі рубля, але і тэрміны прызыву на ваенную службу, адпраўляць часці будуць цяпер у лістападзе і ў маі, як за савецкім часам. На фоне ажыятажнага попыту на тавары з пачатку года беларусы перажылі абвал амаль на 72 % сваёй нацыянальнай валюты. Зноў у нас стала назірацца змяншэнне нараджальнасці: у 1-м квартале 2011 года колькасць насельніцтва краіны зменшылася на 7 тысяч чалавек, калі летась такі паказчык склаў 19 тысяч за ўвесь год. Фінансаванне адных толькі сельскагаспадарчых работ з дзяржбюджэту сёлета зменшыцца на 600 млрд. рублёў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Прэзідэнт Дзмітрый Мядзведзеў заявіў, што надышоў час Украіне вызначыцца, ці хоча яна ўмацоўваць сувязі з РФ альбо будзе імкнуцца да цеснай інтэграцыі з Еўрасаюзам.

**Туніс.** Як першымі паведамілі арабскія тэлеканалы Al Arabia і Al Gazeera, збеглі з Лівіі на тунiскі востраў Джэрба жонка М. Кадафі Сафія і дачка Аіша прырода.

**Польшча.** Падчас візіту ў РП Прэзідэнт ЗША Барак Абама на саміце краін Усходняй і Паўднёвай Еўропы абмеркаваў умовы дэмакратычных змен у суседняй Беларусі.

**Бельгія.** Кіраўніцтва ЕС пачало адкрытыя публічныя кансультацыі наконт адмовы ад выкарыстання поліэтыленавых пакетаў, за год іх выпрабляюць 3 млн. тон, пакутуе прырода.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ зноў заступілася за Беларусь, выступіла супраць увядзення санкцый ЕС да РБ, бо яны маглі вельмі балюча ўдарыць па простых беларусах.

**Грузія.** Парламент краіны заканадаўча зацвердзіў "Хартыю свабоды", яна прадугледжвае люстрацыю былых функцыянераў КПСС і КДБ, забарону сімволікі СССР і нацызму.

**Расія.** Як адзначыў памочнік прэзідэнта РФ А. Дварковіч, эканамічную сітуацыю ў РБ дэстабілізавалі папярэднія выбары, абстаноўку палепшаць яе ўнутраныя рашэнні.

**Іспанія.** На мясцовых выбарах правячая партыя сацыялістаў пацярпела сур'ёзную няўдачу, прайграўшы правацэнтрыстам (37,6 % галасоў), эканоміка краіны ў крызісе.

**Пакістан.** Пасля нападзення баевікоў на авіябазу спецслужбы на поўначы краіны знішчылі з дапамогай беспілотніка лідара руху экстрэмістаў "Талібан" мулу Амара.

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў, як і калегі з Польшчы і Германіі, негатыўна ацаніў судовыя працэсы ў РБ над апазіцыяй, але не падтрымаў санкцыі ЕС, яны неэфектыўныя.

**ЗША.** Пасля цяжкага ранення зімой кангрэсмен Габрыэль Гіфардс паспяхова перанесла аперацыю, ёй частку чэрапа замянілі на імплантант з цвёрдага палімернага матэрыялу.

**Ісландыя.** Зноў ускладніў жыццё авіякампаніям і многім пасажырам свету вулкан Грымсвотн, з-за выкідаў попелу і дыму на вышыню 20 км прыйшлося адмяняць палёты.

**Францыя.** Лепшым фільмам 64-га Канскага кінафестывалю стала стужка амерыканца Т. Маліка "Дрэва жыцця", гэты рэжысёр перамагаў тут і ў 1978 годзе ў "Днях жніва".

**Расія.** Дзярждума РФ канчаткова адмяніла пераход з летняга часу на зімовы і наадварот, сезонныя пераводы стрэлак гадзіннікаў адменены ва ўсіх рэгіёнах ад Курыл да Смаленска.

**ЗША.** Нават пасля эвакуацыі моцны ўраган практычна разбурыў горад Джоплін (50 тыс. насельніцтва) ў штаце Місуры, загінулі 116 чалавек, усё разбурана на працягу 10 км.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада РБ Сяргей Румас адзначыў ажыятажны попыт у розных кутках краіны на мінулым тыдні на соль, макароны, крупы, хоць гэтых тавараў дастаткова ў краіне.

**Зельва.** З улікам цяперашняй сітуацыі ў РБ буйны польскі бізнесмен, 61-гадовы Ян Кульчык, адмовіўся ад пабудовы электрастанцыі на вугалі, кошт праекта 1,5 млрд. еўра.

**Астравец.** Толькі ў выглядзе тавараў і паслуг на суму 7 млрд. $, як заявіў міністр фінансаў РФ А. Кудрын, будзе крэдытавацца тут будаўніцтва АЭС, па інфраструктуры ёсць пытанні.

**Мінск.** На буйным сталічным Камароўскім рынку кошт мяса дасягнуў 35 тыс. руб/кг, яблыкі падаражэлі да 13 тысяч, курынае мяса таксама падаражэла і ўзнік яго дэфіцыт.

**Жыткавічы.** Эканоміку раёна павінен узмацніць новы завод па вытворчасці італьянскіх сыроў, які пачалі будаваць у Тураве, а РБ з РФ задумалі сумесны малочны холдынг.

**Брэст.** У абласной бальніцы паспяхова правялі першую ў рэгіёне аперацыю па перасадцы ныркі 37-гадоваму пацыенту, мужчыну з Баранавічаў, ён пакутаваў 1,5 года.

**Гродна.** На 57 прадпрыемствах, арганізацыях вобласці праверкі ў духу "андропаўскіх часоў" выявілі парушэнні працоўнай дысцыпліны, найчасцей - спазненні на работу.

**Жабінка.** На тэрыторыі санаторыя "Буг" міліцыя затрымала 68-гадовую "валютчыцу" з Пінскага раёна, у яе канфіскавалі 2 тыс. расійскіх рублёў і 755 тысяч беларускіх.

**Івацэвічы.** Трагічна загінула пенсіянерка з вёскі Любішча, яна пры выходзе з дому зачапілася сарафанам за металічны крук дзвярэй і задушылася пад цяжарам свайго цела.

**Асіповічы.** Каля станцыі Татаркі ноччу грузавы поезд Мінск-Гомель збіў статак з 18 кароў мясцовага калгаса, якія пасвіліся кругласутачна, затрымка руху цягнікоў склала 30 хвілін.

**Пінск.** Украінскія пагранічнікі затрымалі двух пінчан, яны паспелі абрабаваць за граніцай вясковую краму, пагражаючы нажом прадаўцу, іх будуць судзіць па 2-х крымартыкулах .

**Слонім.** Адразу трое дзяцей ва ўзросце 3-7 гадоў з нядобранадзейнай сям'і з вёскі Вялікая Кракотка загінулі на пажары ў сваёй хаце, калі гулялі з запалкамі без нагляду бацькоў.

**Мядзель.** У жыхара вёскі Нарач міліцыя знайшла ў халадзільніках 156 кг свежамарожанага і вэджанага вугра на нелегальны продаж і яшчэ 38 кг іншай рыбы.

**Баранавічы.** Цудам абышлося без ахвяр, калі гарадскі аўтобус зляцеў з трасы з-за страты прытомнасці вадзіцеля, МАЗ знёс некалькі дрэў і спыніўся, пасажыры перапужаліся.

**Мінск.** З-за фінансавых праблем стан хакейнага суперклуба "Дынама" ў перыяд межсезоння пакінулі шэраг самых моцных хакеістаў – легіянераў, бо і для іх няма валюты.

## Ад цыгарак да халадзільнікаў: уведзеныя абмежаванні і забароны на вываз прадуктаў і тавараў фізасобамі




■ **Паводле Сяргея Гезгала;**

У імкненні спыніць рост цэнаў урад пайшоў на антырынкавую меру. Уведзеныя зборы за вываз з краіны прадуктаў і тавараў, ад цыгарэтаў да халадзільнікаў. У выніку на дыспарытэце сусветных і ўнутрыбеларускіх цэнаў будуць нажывацца пасрэднікі, а ў краіне самай запатрабаванай прафесіяй ізноў становяцца кантралёры і мытнікі.

Нормы вывазу прадуктаў і забарона на вываз тавараў за межы Мытнага саюза ўводзяцца з 0.00 гадзін 12 чэрвеня.

Такая мера прадугледжана пастановай Савета Міністраў № 755 ад 11 чэрвеня «для забеспячэння эканамічнай стабільнасці дзяржавы і рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян на годны ўзровень жыцця».

Дакументам зацверджаны пералік тавараў і нормы іх вывазу. Пры перавышэнні іх неабходна выплаціць спецыяльны збор. У прыватнасці, збор здзяруць пры вывазе свініны і мяса птушкі, цукру, мукі, сыроў (норма вывазу — 2 кг), масла (1 кг), тытунёвых вырабаў беларускай вытворчасці (2 пачкі), мясных і малочных кансерваў (5 слоікаў).

Збор выплачваецца ў памеры двухразовай сярэдняй цаны названых тавараў. Аплату плацяжу будуць кантраляваць мытныя органы, а на спрошчаных пунктах пропуску — тэрытарыяльныя органы Дзяржпагранкамітэта.

Аплаціць спецыяльны збор неабходна да вывазу тавараў з Беларусі ў беларускіх рублях або замежнай валюце па курсе Нацбанка. Аднак ажыццявіць аплату будзе магчыма і на мяжы, але толькі там, дзе ёсць банкаўскія ўстановы. Рэквізіты Міністэрства фінансаў будуць размешчаны на ўсіх пунктах пропуску.

А вось шэраг тавараў часова зусім забаранілі да вывазу фізічнымі асобамі. Сярод іх бытавыя халадзільнікі і маразільнікі вытворчасці ЗАТ «Атлант», газпліты, цэмент, сінтэтычныя мыючыя сродкі, крупы і макароны.

Спецыялістка Мытнага камітэта падкрэсліла, што абмежаванні і забарона ўведзеныя толькі пры вывазе тавараў за межы Мытнага саюза. Забароны і абмежаванняў на вываз тавараў у Расію і Казахстан няма. Гэта значыць, уведзеныя нормы ўдараць толькі па дробных прымежных гандлярах на межах з Літвой і Польшчай.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Ужо чацвёрты месяц ААТ "КІМ" працуе няпоўны рабочы тыдзень з-за рэзкага падаражання сыравіны, заробкі работнікаў упалі да 700 тыс. рублёў у месяц.

**Наваполацк.** Большасць гараджан, як заявіла старшыня гарвыканкама Наталля Качанава, не падтрымліваюць ідэю аб'яднання з суседнім старажытным Полацкам у адзін горад.

**Полацк.** Калектыў ААТ "Нафтан" задаволіла рашэнне ЕС пакуль не ўводзіць санкцыі экспарцёрам прадукцыі "Белнафтахіма", бо яно магло сур'ёзна адбіцца на іх заробках.

**Верхнядзвінск**. На граніцы з Латвіяй пачалі рэканструкцыю міжнароднага пункта пропуску "Грыгароўшчына", цяпер тут узрос паток транспартных сродкаў да 580 у суткі.

**Віцебск.** Летам плануецца аздаравіць амаль палову дзяцей вобласці, іх прымуць 36 стацыянарных лагераў і 16 арандаваных, больш за 300 дзённых лагераў пры школах.

**Паставы.** За пару дзён спажывецкага ажыятажу жыхары раёна раскупілі 18 тон солі, звычайна ўся Віцебшчына раскупляе за месяц толькі 160-170 тон гэтага прадукта.

**Гарадок**. З-за праблем з валютай мясцовая райспа так і не купіла ў Расіі па прадвызначанаму тэндару дзве новыя сучасныя аўталаўкі на змену даўно адслужыўшым сваё машынам.

**Віцебск.** Амаль палова з 65 салдат з часці № 5524 унутраных войск РБ, якія звальняюцца ў запас, вырашылі застацца служыць у сілавых структурах, паступаць ва ўстановы МУС РБ.

**Орша.** На працягу 2 дзён у горадзе праходзілі дні культуры Балівараянскай Рэспублікі Венесуэла, упершыню сюды прыехаў венесуэльскі пасол у РБ Амерыко Дзіас Нуньес.

**Віцебск.** Міністэрства прамысловасці РБ вырашыла памяняць тут кіраўніцтва завода трактарных запчастак, на якім працаваў "арганізатар" тэракту ў сталічным метро.

**Полацк.** У мясцовым дзяржуніверсітэце запрацаваў 3-і ў Еўропе універсітэцкі гадзіннік з боем курантаў, гімнам ПДУ і шэсцем механічных фігурак Е. Полацкай і Ф. Скарыны.

**Сянно.** У райцэнтры ў 6-ы раз прайшло свята "Дзеці – гордасць сям'і і краіны", на якім адзначылі дыпломамі і медалямі 126 лепшых вучняў раёна, ушанавалі шматдзетных маці.

**Верхнядзвінск.** За забойства сваёй былой настаўніцы-пенсіянеркі і падпал яе маёмасці суд пакараў 19 гадамі турмы жыхара райцэнтра, прыгавор уступіў у законную сілу.

**Віцебск.** Вядомая спявачка Крысціна Арбакайтэ адмяніла заяўлены раней сольны канцэрт і не прыедзе на фестываль "Славянскі базар", які адзначыць сёлета сваё 20-годдзе.

**Обаль.** Дзіцячы сацыяльны прытулак наведала група студэнтаў і выкладчыкаў дзяржуніверсітэта з Віцебска і правяла акцыю "Падары дзецям радасць і здароўе".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Глыбоцкія ды-джэі ўвайшлі ў спіс найлепшых у Беларусі




Дзмітрый Ізмайлаў (Dmitriy May)




Кірыл Петрашоў (PetrashOFF).

■ Кастусь Шыталь

**Глыбачане Кірыл Петрашоў і Дзмітрый Ізмайлаў увайшлі ў рэйтынг 100 найлепшых ды-джэяў Беларусі, які быў вызначаны інтэрнэт-галасаваннем на партале topdj.by.**

Кірыл Петрашоў (вядомы таксама як DJ PetrashOFF) заняў 76-е месца ў рэйтынгу. Музыкай займаецца з 1999 года; з'яўляўся адным з аўтараў рэп-праекта "Gee.em.Cee". Апошнім часам праводзіў дыскатэкі ў глыбоцкім дыска-бары "Спэйс", клубах Докшыц і Наваполацка.

80-е месца ў рэйтынгу заняў глыбачанін Дзмітрый Ізмайловіч, вядомы ў клубных колах як Dmitriy May. Ён займаецца музыкай ужо не першы год, выступае разам з Кірылам Петрашовым.

Цікавасць да музыкі ў мяне пачалася са школьных дыскатэк. Пазней пазнаёміўся з Кірылам. Музыка для мяне – не заробак. Гэта задавальненне, станоўчыя эмоцыі. Жыццё без музыкі ўжо не ўяўляю"- распавёў Дзмітрый.

У хуткім часе Кірыл Петрашоў і Дзмітрый Ізмайловіч пачнуць працаваць у новым фармаце - радыё-шоў. "Гэта радыёпраграма, у якой будзе клубная музыка і адступленні на розныя тэмы. Спачатку будзем распавядаць пра развіццё клубнай музыкі ў Глыбокім, потым – пра розныя музычныя лэйблы", - распавёў Кірыл. Запісы будуць публікавацца ў сеціве, а таксама гучаць на хвалях радыёстанцый.

Тым часам глыбоцкія аматары клубнай музыкі страцілі месца для правядзення вечарынак. У дыскабары "Спэйс" пачалася рэканструкцыя, пасля якой там не будзе танцпола. Верагодна, такі крок прадыктаваны эканамічнымі прычынамі – моладзь не пакідае шмат грошай у бары. "Клубнае жыццё ў Глыбокім можа занікнуць", – лічыць Кірыл Петрашоў.

* * *

Праслухаць аўдыёзапісы і паглядзець здымкі з мерапрыемстваў глыбоцкіх ды-джэяў можна на іх вэбстаронках http://petrashoff.promodj.ru/ і http://dmitriymay.pdj.ru/.




Чэмпіянат Беларусі па футболе-2011

# ЯК І НАЛЕЖЫЦЬ ЛІДАРАМ

## "ПМЦ-1" (Паставы) – "Белшына" (Бабруйск) – 4:1

■ Кастусь Александровіч.

За пяць спякотных дзён наступіўшага лета пастаўскія футбалісты правялі два матчы і атрымалі ў іх чарговыя перамогі з буйным лікам. Спачатку на выездзе ў Салігорску яны лепш прыстасаваліся да невыноснай 30-градуснай гарачыні, дзе газон са штучным пакрыццём невыносна раскаляўся на сонцы. Аднак ужо на 3-й хвіліне каманда гасцей разыграла вострую камбінацыю, якую трапным ударам завяршыў малады нападаючы Дзмітрый Максімчук. У гэтым матчы на яго далейшы сенсацыйны вынік паўплывалі відавочная перавага ПМЦ над сапернікам па ўсіх кампанентах гульні, лепшая фізічная падрыхтоўка.

Яшчэ да перапынку двойчы змог вызначыцца таксама хуткасны і тэхнічны форвард пастаўчан Кірыл Сідарэнка. У пастаўчан у другім тайме на полі стала ўсё атрымлівацца, як след, і яны завалодалі яшчэ большай тэрытарыяльнай і гульнявой перавагай над аднагодкамі. Спроба салігорцаў зрываць атакі пры дапамозе стварэння штучнага становішча "па-за гульнёй эфектыўна дзейнічала толькі нейкія чвэрць гадзіны. У далейшым пастаўчан стала проста не стрымаць.

Гулялі хлопцы на куражы, абарона "Шахцёра" раз за разам з інтэрвалам у 5 хвілін прапускала вострыя выхады на ўдарныя пазіцыі і на рандэву са сваім бедным варатаром, які толькі вымаў і вымаў мячы з сеткі варот. Агрэсіўны і хуткасны нападаючы гасцей Дзмітрый Максімчук змог вызначыцца яшчэ двойчы і давесці свой рахунак забітых мячоў у першынстве краіны да шасці..

Аднойчы ўдала падключыўся да розыгрышу вуглавога цэнтральны абаронца пастаўчан Аляксей Альсевіч і лік на табло стаў зусім разгромным – 0:7. Таксама тэхнічна рэалізавалі неўзабаве свае выхады адзін на адзін з варатаром салігарчан яшчэ адзін абаронца ПМЦ Яўген Емельянаў і паўабаронца Ігар Пукаў. У гэтым вызяным матчы перамогу у Салігорску над мясцовым "Шахцёрам" з разгромным лікам 9:0 забяспечылі: Несцераў (Місюс), Рымчонак, Жарскі (к), Архіпаў (Емельянаў), Давыдзенка (Валатоўскі), Малахаў (Бабічаў), Латышаў (Сысянкоў), Пукаў (Фяркові), Сідарэнка (Санько), Максімчук. Такі ўдалы вынік дазволіў ім наблізіцца па розніцы мячоў да лідара першынства, мінскага "Дынама".

На наступны паядынак дома з рэзервістамі бабруйскай "Белшыны" пастаўчане выходзілі, ведаючы ўжо вынік сустрэчы сталічных дынамаўцаў у Брэсце (4:1 на карысць мінчан). Да гэтай сустрэчы гаспадары яшчэ больш умацавалі свой склад і дазаявілі да ўдзелу ў нацыянальным першынстве трох навічкоў – абаронцу "Нафтана" (Наваполацк) Аляксандра Канbackгоніка, апорнага паўабаронцу "Славіі" (Мазыр) Арцёма Галяка, якіх выпусцілі потым на поле падчас праведзеных замен. З самага пачатку сустрэчы гуляў цэнтрфорвард зборнай Беларусі (U-17) Васіль Журневіч, які перайшоў у Паставы з Гродна.

Заўважым, што для прыезджых спартсменаў на спартбазе стварылі жылы корпус на другім паверсе, дзе ёсць і сталовая для іх, усе ўмовы для адпачынку ў вольны час. З імі цяпер праводзяць заняткі і два трэнеры з сусветнавядомага суперклуба, чэмпіёна Італіі – славутага "Мілана". А які новы камфартабельны аўтобус "Вольва" у каманды з сімволікай клуба. Такой тэхніцы для далёкіх паездак, як у пастаўчан, дзе адчуваеш сябе як у салоне самалёта з электроннай сістэмай кандыцыянераў, могуць пазайздросціць нават лепшыя клубы Беларусі.

Карыстаецца каманда гарачай падтрымкай і любоўю шматлікіх прыхільнікаў. Вось і ў гэтым матчы напорыстая хуткасная гульня з мячом і добры дрыблінг Васіля Журневіча спадабаліся гледачам, якія гучна называлі імя хлопца і апладысментамі падтрымлівалі навічка. Дарэчы, Васіль змог вызначыцца ўжо на 5-й хвіліне, калі бездакорна прабіў пенальці. Пастаўчане пастараліся ўзяць пад свой трывалы кантроль цэнтр поля і прымусілі бабруйчан абараняцца з павышанай нагрузкай. У сярэдзіне першага тайма трапным ударам завяршыў свой кінжальны праход нападаючы Кірыл Сідарэнка і падвоіў лік на табло. Гэты гол у Кірыла стаў 8-м па ліку ў сезоне і ён выйшаў у лепшыя бамбардзіры сваёй каманды.

Аднак яшчэ шэраг зручных момантаў для ўзяцця варот гасцей пастаўчане не выкарысталі, што выклікала незадавальненне іх трэнера, які правёў некалькі замен. Пасля перапынку характар гульні змяніўся нязначна, мяч паранейшаму ўпарта не хацеў трапляць у вароты бабруйчан. Больш таго, неўзабаве рэдкі ўдар са штрафнога дазволіў саперніку скарацiць розніцу ў ліку да мінімальнага. І хоць гульня пастаўчан у завяршальнай стадыі часта не атрымлівалася, як задумвалася, але ў канцоўцы яны ўсё ж дабіліся буйной перамогі. Спачатку адкрыў свой галявы рахунак яшчэ адзін нападаючы Яўген Латышаў, а затым пенальці рэалізаваў капітан ПМЦ Аляксандр Жарскі і ўсталяваў канчатковы вынік на табло - 4:1 на карысць пастаўчан.

У гэтым матчы за каманду ПМЦ (Паставы) паспяхова згулялі: Несцераў, Рымчонак, Альсевіч, Жарскі (к), Архіпаў (Канонік), Бабічаў (Санько), Сідарэнка (Сысянкоў), Давыдзенка (Малахаў), Максімчук (Галяк), Журневіч (Латышаў). Пакуль у чэмпіянаце краіны па-ранейшаму двоеўладдзе, па 25 набраных ачкоў пасля 9 тураў і па 8 перамог і адной нічыёй паміж сабой (2:2) было у ПМЦ і мінскага "Дынама". Падчас чарговай паўзы ў чэмпіянаце Беларусі пастаўчане на 5 дзён выехалі ў Маскву, дзе яны згулялі кантрольныя трэніровачныя матчы са знакамітым расійскімі суперклубамі "Спартак", "Лакаматыў" і ЦСКА, у вольны дзень зрабілі экскурсію па расійскай сталіцы.

З Масквы каманда вярнулася дамоў у сярэдзіне чэрвеня, а потым ужо праз 3 дні паедзе на выязную гульню ў Віцебск, з рэзервістамі аднайменнага клуба вышэйшай лігі, дзе сёлета пастаўчане сталі аднымі з мацнейшых у Беларусі ва ўзросце да 17 гадоў. Пасля вяртання з абласнога цэнтра, каманду чакае новая цікавая паездка на прадстаўнічы міжнародны футбольны турнір у Паморскае ваяводства Польшчы, якая рыхтуецца праз год прыняць у сябе разам з Украінай чарговы фінал чэмпіянату Еўропы па футболе.

■ Зьміцер Бартосік.

*Захаваны правапіс і стыль аўтара і Радыё Свабода.*

# Аграсядзіба «Родны кут» – пераможца рэспубліканскага конкурсу

**Пра пляны валодзькаўскай жыхаркі Юліі Букі заняцца агратурызмам мой калега Ягор Маёрчык распавядаў гадоў дзесяць таму назад. Але нядаўна афіцыйныя СМІ распаўсюдзілі радасную навіну. Яе аграсядзіба «Родны кут» 15 красавіка атрымала ў Менску дыплём пераможцы рэспубліканскага конкурсу на найлепшую сядзібу. У намінацыі «Зялёная сядзіба».**



Юлія Бука.



Сядзіба «Родны кут» — гэта тры вясковыя хаты ў маляўнічай вёсцы непадалёк ад вялікага і чыстага возера. І ў тых хатах няма ніякага эўрарамонту. Яны не «абдзеланыя» сайдынгам. У тых хатах сапраўдная адрэстаўраваная мэбля. Вясковыя шафы, паваенныя буфэты, панцырныя ложкі з блiскучымі шарамі. Адным словам, усё натуральнае. Ад краявіду да прадуктаў, ад цішыні навокал да забавы – катаньня на вазку. **Слова спадарыні Юліі.**

*— Толькі гэтым і можам іх зацікавіць, што гэта звычайная вёска. Натуральная вёска з натуральным жыцьцём. А паехаць за высокі плот у катэдж, дык гэта можна знайсьці і ў Германіі, і ў Польшчы. А вось такую вёску, яшчэ жывую трошачкі, ужо, магчыма ня знойдзеш. Закінутых вёсак шмат, але ж хто застаўся там жыць? Адзінокія бабулькі. І турызм там ніякі не разьвіваецца.*

Прыемна тое, што сьціплая сядзіба «Родны кут» перамагла сотні наварочаных гатэльчыкаў з мэталадахоўкаю і джакузі. Значыць, ёсьць мазгі ў турыстычных кіраўнікоў. Не апошнюю ролю, думаю, адыграла ў перамозе і беларуская мова.

— Прыбытку вялікага ў нас няма. Гэта ня бізнэс, гэта ідэя. І калі мы запрашаем гасьцей, мы размаўляем толькі па-беларуску. Ёсьць зьніжка беларускамоўным. Мы робім многае, паказваючы, што можна быць добрым, працавітым, разумным, беларускамоўным беларусам. Нас за гэта паважаюць, едуць да нас. Калі едуць адны і тыя госьці па сем, дзесяць разоў, калі яны дзякуюць, што мы ёсьць, то я думаю, што праца вартая гэтага ўсяго.

**— Можна сказаць, што вы, па сутнасьці, ратуеце вёску?**

*— Так. Канечне. Ратуем і паказваем, што ёсьць іншая вёска. Не аграгарадкі, не катэджы, а звычайная, простая, старажытная вёска. Тая, якая была сто гадоў. Вось гэтай хаце, дзе я жыву, сто гадоў. І суседняй хаце сто гадоў. У мяне сэрца рвецца, калі я бачу, як гэтыя хаты руйнуюць. Яна магла б яшчэ прастаяць, але няма гаспадара. Памерлі бацькі, зьехалі дзеці. І каб яна не псавала выгляд, іх руйнуюць. Чаму б яе ня выкарыстаць? Чаму б ёй ня даць другое жыцьцё? Нават проста прыехаць і паглядзець. Сёньня моладзь зьдзіўляецца многім рэчам. І тым прыладам, якія сустракаюцца. А пра харчаваньне няма чаго казаць. Бываюць такія выпадкі, што ўпершыню ядуць вясковыя стравы.*

**— Дзяржава дапамагае хоць неяк?**

*— А справа ў тым, што мы не зьвярталіся да дзяржавы.*

**— Вы ня бралі крэдыт?**

*— Ніколі мы нічым не карысталіся. Бо як толькі я ад некага пачну залежаць, мяне пачнуць, як на ланцужку, цягнуць некуды. Але я вельмі ўзрадавалася, што ёсьць людзі, якія знайшлі ў нас нешта цікавае. Я радая, што ёсьць людзі, якія бачаць нешта, акрамя грошай. Тое, што мы захоўваем вёску, — адна з прычын, што нас зрабілі пераможцамі гэтага конкурсу.*

Хаты «Роднага кута» месьцяцца ў розных кутках Валодзькава. І вы нязмушана можаце на хвіліну акунуцца ў нетаропкае вясковае жыцьцё. Напрыклад, пазнаёміцца са сваімі суседзямі. А пагутарыць ёсьць пра што. Напрыклад, усе яны помняць легендарнага мастака Язэпа Драздовіча. Праўда, ставяцца да яго без належнай павагі. Як старая Валянціна.

**— Вы памятаеце Драздовіча?**

— Помню. Дываны маляваў. І нам варажыў, дзеўкам. Усе ж замуж хочуць. Гадоў па пятнаццаць нам было ў сорак пятым годзе. Клалі рукі на талерку. А ён падымаецца і кажа — «Падыміся, ажывіся, пакажы, што ты жывеш». А каму ён гэтак гаварыў, я ня знаю. Яго за дурачка прымалі. Ніхто ня думаў, што ён адукаваны чалавек. Тут увогуле ніхто адукацыі ня меў і не цаніў яе.

**— А чаму яго лічылі дурачком?**

*— Ну а чаго ён варожыць рабятам? Рукі клалі на край талеркі. І некаму ж ён гаварыў «ажывіся, падыміся». Хадзіў па хатах. Дываны намалюе тым, хто паесьці дасьць. Апрануты быў небагата. Маляваў. Два гусі. Кусок вады. Художасьцьвенна рысаваў. Ня проста пэцкаў. Мусіць, адукацыю пры Польшчы атрымаў? А чаго ён вышэй не пайшоў? А ўвогуле ў Заходняй Беларусі вайны ня ведалі. Сьвіньняў рэзалі, гарэлку пілі, і ўсё. На Віцебшчыне партызаншчына была!*

Цікава, чый жа дух выклікаў Драздовіч на тым сьпірытычным сэансе? Гэтага баба Валя ня памятае. Сама яна з Усходу. У партызанах быў і яе бацька, і яе брат. Таму да несьвядомых заходнікаў, якія падчас вайны пілі гарэлку, ставіцца крыху з асуджэньнем. А вось 90-гадовая Сусанна ня можа забыцца на сваю хутарскую гаспадарку, якую забралі бальшавікі. Таму і да немцаў ставіцца без варожасьці. Карацей, геапалітычны канфлікт яшчэ працягваецца.

*— Пры немцах добра было жыць. Немец нам нічога не рабіў. Зямлю аралі. Пабагацелі. Партызаны лёталі па хатах са сьвечкамі. А стрэхі ж саламяныя. Мяне білі партызаны.*

**— За што?**

*— Крычалі, давай боты, гімнасьцёркі, штаны. А дзе іх узяць, калі няма? Да мужыка майго прычапіліся. Ледзь абараніла. Як торгнуў мяне, я і паляцела. Гэты партызан.*

**— Гэта былі беларусы?**

*— З Савецкай Беларусі. Ня нашы. Не заходнікі.*

А вось яшчэ адна старая. Баба Лёдзя. Якая ўносіць істотныя дэталі ў партрэт мастака. Аказваецца, не за міску супу прадаваў свой талент Драздовіч. І «дурачком» ён зусім ня быў.

*— Помню. Ён у нас дываны маляваў. Вельмі быў разумны чалавек. Але ў вайну ён сябе зрабіў такім дурачком. Каб яго нікуды не мабілізавалі. Хадзіў, дываны маляваў. Плата па вайне. Ні ў каго платы ня браў. Вайна як скончыцца, ён тады прыйдзе за платай. І сапраўды, як вайна скончылася, Драздовіч прыехаў за платай. У каго два пуды зярна за дыван. Хто два маляваў — чатыры пуды. Гэткую плату зьбіраў. Ён у мяне як цяпер у вачах стаіць, Драздовіч. Просьценька апрануты. Яшчэ нейкі халат наверх надзене. Вецер полы гайдае.*

**— Расказваў што-небудзь вам, дзецям?**

*— Я яшчэ невялікая была. Возьмецца гэты дыван маляваць. Малюе, пяе сам з сабой. Харошы быў чалавек. Нікому не насаліў. Колькі ён гэтых дываноў… У кожнай хаце, можна сказаць.*

**— Ён карыстаўся папулярнасьцю з дыванамі…**

*— Дык у вайну ж нідзе нічога ня можна было купіць. А даўней жа ткалі сваё палатно зь лёну. У кожнага гэты матэрыял быў. Скажа пафарбаваць чорным. На чорным ён маляваў. Дык езьдзяць, шукаюць фарбы адзін у аднаго. У Глыбокае лятуць, знойдуць. А людзі якія былі дружныя! Адзін аднаму дапамагалі. Адзін скажа, дзе браў — едзь і ты там вазьмі. Трыццаць хат малявалі ў вёсцы. Нават па два было. Дзе дзьве дзеўкі ў хаце, то і па два дываны малявалі.*

**— І куды ўсё гэтае багацьце падзелася?**

*— Усё прапала.*

**— Няўжо людзі выкідалі?**

*— Выкідалі. Сталі ж багатыя! Сталі купляць каўры! А гэта падсьцеляць, зярно высыпаюць на яго. А цяпер як бы яно прыгадзілася. Праўда?*

Выдаваць сябе за бажаволка, каб падчас акупацыі несьці сваім людзям радасьць. Вельмі шляхетны парыў. Сёньня бы гэтым дыванкам цаны б не было. Але беларусы сталі «багатымі». Абрадавыя старажытныя песьні мяняюць на «падмаскоўныя вечара». І выкідаючы на сьметнік зь любоўю намаляваныя дываны Драздовіча. Але адзін драздовіцкі дыван Юліі ўсё ж пашчасьціла знайсьці ў адной з навакольных вёсак. На ім паштовыя галубы нясуць лісты шчасьця.



Сядзіба «Родны кут».



Сядзіба «Родны кут». Інтэр'ер.

# У сеткі інспекцыі трапляюць і дасведчаныя браканьеры

■ **А.В. Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

6 чэрвеня, панядзелак, дзень цяжкі, але не для ўсіх. Так думаў наш чарговы «герой». Падняўся раніцай, калі ўсе яшчэ спяць, жыхар адной з вёсак Глыбоцкага раёна. Авечкін Пётр (прозвішча і імя зменены) узяў рыбалоўную сетку і накіраваўся на возера Шо. Возера вельмі рыбнае і можна няздрэнна парыбачыць, бо ў панядзелак усе на працы, заняты справай, інспектары аховы таксама, падумаў наш «герой». Спакойна ўсталяваўшы сетку, Пётр пайшоў дасыпаць, прадчуваючы добры ўлоў. У сне яму сніліся злоўленыя ў сетку ліны і карасі, якіх на Шо вялікае мноства. І вось наступіў дзень, сонца ў зеніце, спякота, Пятру не трывалася праверыць свае сеткі. Узяўшы лодку, ён паплыў да сетак, улоў быў нават вельмі не дрэнны, шмат карася, ліна, трапіўся і лешч з чырвонапёркай, будзе што прадаць і юшку зварыць. Але так думаў сам Пётр, а вось інспектары Глыбоцкай міжраённай інспекцыі так не лічылі. Не паспеў Пётр і рыбу з сетак дастаць, як інспектары былі ўжо побач з ім, а вынік нашай гісторыі – крымінальная справа за незаконную здабычу рыбы сеткамі, бо шкода прычыненая прыродзе перавысіла 2 млн. рублёў.

7 чэрвеня 2011 года рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі каля 22 гадзін вечара прыбыла на Старадворскае вадасховішча, што ў Пастаўскім раёне, вечар гарачы, але рыбакоў не відаць, аднак было вырашана арганізаваць назіранне за вадаёмам. І вось каля 23 гадзін на ціхай роўнядзі вады з трыснёгаў выплывае лодка, цікава, што за позні рыбалоў з'явіўся. Інспектары сталі сачыць за рыбаком, а ён, не марудзячы, стаў усталёўваць браканьерскія сеткі, выставіўшы 6 сетак, рыбачок гэтак жа хутка схаваўся ў трыснягах. Адна група інспектараў усю ноч вяла назіранне за месцам усталёўкі сетак, а другая група шукала парушальніка, які схаваўся, высветліўшы яго месца знаходжання, гэтак жа арганізавала назіранне за ім. І вось раніца 8 чэрвеня. Наш парушальнік адпачыў і каля 6 гадзін на досвітку паплыў на вадаём, але здымаць сеткі не стаў, проста лавіў рыбу вудай, дакладней, рабіў выгляд, што ловіць, а сам уважліва' вывучаў становішча. Увесь гэты час інспектары ўтоена назіралі за парушальнікам, вялі відэаздымку яго дзеянняў, фіксуючы кожны крок. Час цягнуўся вельмі павольна, а рыбачок сеткі ўсё не здымаў, за гэты час інспектары непрыкметна для назіранага аб'екта затрымалі яшчэ аднаго аматара дармавой рыбкі, які гэтак жа сеткамі злавіў больш 7 кг. рыбы і паспрабаваў хуценька і непрыкметна з'ехаць з вадаёма, ён не ведаў, што з першых хвілін за ім вядзецца назіранне.

Вось ужо сонца ў зеніце, 14 гадзін дня, на вадаёме ніводнага чалавека, усё спакойна, і наш «герой» вырашыў дзейнічаць. Павольна здымаючы сетку і выбіраючы злоўленую рыбу, браканьер рухаецца ўздоўж берага. Знятыя сеткі перыядычна хавае на беразе, маскіруючыся, як толькі можна, але інспектары гатовыя да такога павароту падзей і ўсе дзеянні фіксуюць на відэаапаратуру. Вынік назірання – затрыманне браканьера са здабыткам прама на беразе, лёгкі шок парушальніка. Хвілін пяць жыхар Пастаўскага раёна грамадзянін М. не мог ачомацца. Як змаглі інспектары затрымаць яго, дасведчанага браканьера? Колькі разоў лавіў рыбу сеткамі і ні разу не пападаўся! У парушальніка канфіскавана 6 сетак, больш 10 кг рознай рыбы, а матэрыялы накіраваныя ў Пастаўскі раённы суд.

Не паспелі інспектары прыбыць з рэйду дахаты, каб адпачыць, як ізноў паступіла інфармацыя пра тое, што на возеры Вялецкае Глыбоцкага раёна, усталяваны браканьерскія сеткі. Адпачынак прыйдзецца адкласці. Ізноў інспектары на працы і каля 24 гадзін ночы затрымалі двух жыхароў Глыбоцкага раёна, якія сеткамі налавілі рыбкі, толькі рыбка выйдзе для парушальнікаў трохі задарагой. Бо за ўсё трэба плаціць, толькі чаму займаючыся браканьерствам, людзі не думаюць пра наступствы. А часам плаціць за незаконна здабытую рыбу даводзіцца сваёй свабодай, закон прадугледжвае крымінальную адказнасць за незаконную лоўлю рыбы да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Гэта ўсяго толькі некалькі прыкладаў затрымання браканьераў, вельмі хацелася б верыць, што нашы азёры сталі трошкі чысцей не толькі ад смецця, але і ад браканьераў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70 кругласутачна, мабільныя тэлефоны: 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49, 347-85-14.

# Віншаванкі



*Тамару Стэфанаўну Ліля*

**Віншуем з юбілеем!**

Удачи, здоровья, уютного дома,
Надёжных друзей и хороших знакомых.
Дороги к успеху счастливой и гладкой,
В семье – пониманья, любви и достатка!

*Калектыў Дзеркаўшчынскай АВОП*

## Паважаныя нашы медыцынскія работнікі

**Таццяна Іванаўна Рыжая і Таццяна Мікалаеўна Капшуль**, а таксама ўвесь Дзеркаўшчынскі калектыў. Віншуем Вас з Днём медыцынскага работніка. Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця і доўгіх год жыцця. Вялікі Вам дзякуй за вашы умелыя рукі і добрыя сэрцы.

*Хрысціна, Таццяна.*

**Што адбываецца там, дзе вы цяпер, як выглядае крызіс і выхад зь яго, што мяняецца і што застаецца бязь зьменаў?**

# Летні фота- і відэаконкурс, сур'ёзныя прызы

Пераможцаў вызначае рэдакцыя штомесяц

Прысылайце свае здымкі (з кароткім апісаньнем — што? дзе? калі?) на адрас **radiosvaboda@gmail.com.** Рэкамэндаваны памер фотаздымка: 800 х 600 піксэляў, разьдзельнасьць – 72 dpi.

Патрабаваньні да відэа: максімальны хранамэтраж – 1 хвіліна. Калі памер вашага відэа перавышае 25 мэгабайтаў (дапушчальны памер файла для дасылкі на нашую электронную пошту), вы можаце запампаваць яго на любы файлаабменны сэрвіс (напрыклад, www.sendspace.com) і даслаць нам на пошту спасылку. Яшчэ адзін варыянт: калі маеце свой эккаўнт на YouTube – запампоўвайце туды і дасылайце нам спасылку на **radiosvaboda@gmail.com.**

Дасылаючы здымак ці відэа на svaboda.org, Вы павінны ведаць, што фотоздымак ці відэа трапляе пад правілы Радыё Свабода. Здымак ці відэа не аплачваецца, мы пакідаем за сабой права скарыстаць яго на сайтах Радыё Свабода, а таксама ў іншых СМІ. Пры гэтым Вы захоўваеце аўтарскае права на здымак ці відэа, і мы пазначаем Ваша імя пад здымкам (відэа). Радыё Свабода ня можа гарантаваць, што мы апублікуем усе вашыя здымкі (відэа). Пры адборы да публікацыі перавага даецца актуальным фота- і відэаздымкам падзеяў, людзей, сытуацый. Радыё Свабода захоўвае за сабой права рэдагаваць камэнтары да фота- і відэаздымкаў. Здымкі рэпартажнага характару павінны быць зроблены без ужываньня Фоташопу і іншых мантажных сродкаў і прыёмаў, якія скажаюць рэальную карціну.

ФОТАКОНКУРС

**Першы прыз і трохмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 15 кг грэчкі.**

**Другі прыз — двухмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 10 кг грэчкі.**

**Трэці прыз — аднамесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 5 кг грэчкі.**

# Турыстычны злёт на беразе Шошы

■ **Яўген Самсонаў**

Два дні, з 10 па 11 чэрвеня, у вусці Шошы было шматлюдна. Дваццаць каманд з розных прадпрыемстваў змагаліся за першынство ў спартыўнай і конкурснай праграмах раённага турыстычнага злёту.

Было весела і надзвычай цікава. Слабакоў там не было. Загартаваныя фізічна і духоўна ўдзельнікі злёту змагаліся ўпарта, нягледзячы на аўтарытэты майстроў турыстычнай справы.

Асаблівасцю сёлетняга турыстычнага злёту быў конкурс касцоў. Кіраўнікі арганізацый, якія ўдзельнічалі ў злёце, спаборнічалі ў касьбе, стральбе і эрудыцыі.

Чарговы раз пераможцам раённага турыстычнага злёту стала каманда "Мясакамбінат". Няшмат ім саступілі энергетыкі. А трэцім прызёрам стала каманда СПМК-26.







# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

20 – 26 чэрвеня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".
Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 20 чэрвеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00, 23.00** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** «Горожане»: Минск.
**09.10 "Маргоша"**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Тоскую по Родине».
**11.00 "Маруся. Возвращение"**
**12.10 "Рита"**
**13.45** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Колумбия. Не представляет».
**16.05** Требуется.
**16.20** Документально-биографический цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «Вячеслав Невинный».
**17.05 "Маршрут милосердия"**
**17.55 "Маруся. Возвращение"**
**18.50**, 01.10 «Зона Х».
**19.30** «Арена»
**19.55 "Маргоша"**
**21.00** «Панорама».
**21.40** «Командировка».
**21.55** «Подполье против Абвера». Художественно 1-я и 2-я серии.
**23.10 "Доктор Хаус5"**
**00.45** «Проверка слухов».
**01.15** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 "Любительница частного сыска Даша Васильева"**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 "Обручальное кольцо"**
**17.10 "Участок"**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». « По плану «Д». Как начиналась секретная война».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10 "Крепость"**
**23.10** «Несекретные материалы».
**23.40** «Беженцы в Беларуси».
**00.25 "Крем"**
**01.15-01.45** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05** Пра мастацтва.
**09.30** «Навіны надвор'я».
**10.00 "Универ"**
**11.10** Страсці па культуры.
**11.50 "Майор Ветров"**. 1-я и 2-я серии.
**13.50** «Беженцы в Беларуси».
**14.30** Внеклассный час.
**15.05** «Час суда. Дела семейные».
**16.10** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00** Битва экстрасенсов.
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.05** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**19.25 "Знакомство с Марком"**
**20.55** Калыханка.
**21.10** Телебарометр.
**21.15** КЕНО.
**21.20** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. Чехия-Беларусь. Прямая трансляция.
**23.05 "Универ"**
**00.10** Битва экстрасенсов.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.40** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40 "Наши соседи"**
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Пирамиды. Связь со Вселенной».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Группа «LAS VEGAS» против группы «DALI».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 "ПАПА".**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:40 "Час гонару"**: 34 серыя
**8:25** Чаму дэмакратыя? 3 серыя, «Таксі ў цемру»
**9:20** Прыватная калекцыя
**9:40** На колах
**10:05** Без рэтушы: «Кітайцы атакуюць»
**10:30** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»: ч. 2
**11:30** «Ліст з Малдовы», дак. фільм, 2009 г., Румынія
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Маўчанне Лорны"**
**13:45 "Час гонару"**: 34 серыя
**14:30** Чаму дэмакратыя? 3 серыя, «Таксі ў цемру»
**15:25** На колах
**15:55** Без рэтушы: «Кітайцы атакуюць»
**16:15** Вагон
**16:25** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Ранча Піковая Сямёрка"**: 11 серыя
**17:30 "Час гонару"**: 34 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 3 серыя, «Таксі ў цемру»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45** Беларусы ў Польшчы
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прэс-экспрэс
**21:40 "Маўчанне Лорны"**
**23:25** Аб'ектыў

